# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ



ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

ГОД 18/24 | КАЛЯДЫ 1996 | 4/41/51


КАЛЯДНЯЕ ВІТАНЬНЕ

АД ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА

БОЖАЙ ЛАСКАЙ

МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА



БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ

ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

Хрыстос нарадзіўся, слаўце!

Ізь Сьвятам з Найвышша пасланае радасьці, бо ў ім нараджэньнем з Найчыстае Дзеўны Божага Сына пачалося вызваленьне людзкога роду ад пачатнага грэху ды збаўленьне кожнага з нас, вітаю Вас, Чэсьці Годнае Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да гэтае роднае Сьвятое Царквы ймкняцеся, а яшчэ доступу ня маеце.

Ад шчырага сэрца жадаю, каб радасьць Хрыстовага Нараджэньня зыйшла з Найвышша ў Вашыя хаты й ейнаю цяплынёю агрэла ўсе дні ў жыцьці кожнага з Вас, ды штодня ўпрашаю народжанага ў Бэтлеэме нашага Збаўца Ісуса Хрыста, каб ушчадрыў Вас гэткаю ласкай.

Памятаючы, аднак, што Божая Ласка не даецца задарма, а атрымоўваецца праз годнасьць і заслугу на яе, заклікаю Вас, перш як адзначаць пару гэтага вялікага Сьвята паводле прадзядніх калядных звычаяў, не забыцца з павагай прачытаць у Сьвятым Пісьме, ці згадаць з бацькоўскіх пераказаў, як яно збылося ды знайсьці ў гэтым сабе навуку й накірунак на збаўленны шлях у Вашым жыцьці.

Бо ў аповесьці Сьвятога Пісьма аб Хрыстовым Нараджэньні настаўленьне на сёньняшні дзень выяўленае й выразна паказанае кожнаму, хто яго сэрцам ды думкай гатовы прыйняць.

Гэтае-ж настаўленьне асабліва павінна быць цямным нам - беларусам, бо ў пару, калі нарадзіўся наш Збавец Ісус Хрыстос, Палестына, дзе гэта сталася, вельмі нагадвала наш Край у сёньняшні час, а ейнае насельніцтва наш гаротны Народ.

Як і наш Край цяпер, тая старонка тады ўжо не называлася ейным даўнім і слаўным імём, а азначалася мянушкай, што пайшла з назову ейных ворагаў.

І хоць, быццам, і свайго царка яна мела, але той ня правіў на ейную карысьць, а сабе на прыбытак і раскош, ды чужынцам на зьдзірства й лупеж.

Бо была тая зямелька ўлучаная, ці, як сёньня кажуць, інтэграваная ў вялізную Рымскую імпэрыю ды ўсім дабром той імпэрыі мусела служыць.




З таго й ейны народ жыў у галечы ды цярпеў зьдзек няволі пад чужынскай уладай.

Ды за адбіранае ад яго дабро быў у сталай зьнявазе, як ніжэйшага вываду племя, ды нат ягоныя звычаі й родная мова лічыліся простымі й горшымі ад звычаяў ды мовы імпэрскае нацыі.

Нядзіва таму, што гэны народ, успамінаючы, паводле бацькоўскіх пераказаў, лепшае мінулае, лятуцеў праз узнаўленьне тае даўняе шчаснае пары ды верыў, што яно збудзецца.

Ягоная вера, нажаль, была блудная, бо зманвала чакаць не абяцанага Богам праз пракрокаў Мэсыю, што навукай адчыніў-бы нявідучыя духовыя вочы й настаўленьнем зьмякчыў скамянелыя ад грэху сумленьні, а чараўніка й асілка, што бяз болю й выдатку нікому, вярнуў-бы з прыростам былую сілу над ворагамі ды з прыбыткам ранейшае, насытнае целу багацьце.

Дзеля таго, вось, калі праз нараджэньне з Найчыстае Дзеўны й зыйшоў на зямлю запраўдны Мэсыя-Збавец, Божы Сын Ісус Хрыстос, словы, якімі Ён клікаў і навучаў адракчыся ад забрыджанага нягоднымі пачуцьцямі й учынкамі йснаваньня, ды нарадзіцца да новага, Божай справядлівасьцяй кіраванага жыцьця, не знайшлі ў гэным народзе водгуку, а стрэлі ненавісьць, зь якое ён і дазволіў ад свайго ймя выдаць пасланага на ягонае збаўленьне Божага Сына на сьмерць на крыжы.

Як дорага гэны народ заплаціў за духовую сьлепату й глухату, што ўканцаваліся найвялікшым злачынствам, сьветчаць амаль два тысячагодзьдзі гісторыі.

Нашаю пароју й над Беларускім Народам, як над даўнімі юдэямі, важыцца ў небе суд - ці выпраўдаем мы на ім сабе зьмілаваньне, ці на Божы гнеў заслужым?...

Бо, як амаль дзьве тысячы гадоў раней да юдэяў у Палестыне зыйшоў у кволым дзіцячым целе

пасланы Богам духовы Збавец, гэтак і нам колькі год назад зьявілася з Найвышша дадзеная нагода адрадзіць пабудаваную на Божых і людзкіх правох сваю дзяржаву ды, узнавіўшы ў ёй заснаваную на чыстай Веры родную Праваслаўную Царкву, стварыць сабе годнае жыцьцё і здабыць ім збаўленьне на небе.

Нажаль, зусім падобна да даўніх юдэяў, не даволі з нас чакала ад гэтае нагоды духовага багацьця, зь якога родзіцца й рэчавы дастатак, а найбольш спадзявалася на хуткую заможнасьць, а калі асталыя пры ўладзе ранейшыя прыганятыя не далі свабоды гэтай заможнасьці збыцца, яны зусім ня думаючы за пустыя абяцанкі прадаюць на загубу пасланую Богам магчымасьць стварыць у нашым Краі дагоднае Яму й насытнае сабе жыцьцё.

Схамянецеся-ж, Любыя, і, каб Божы гнеў ня ўпаў на Вас, не далучайцеся да дзеяў, што нас у цемру бязбожжа й няволі вядуць, а выкрывайце іхную небясьпеку ды весьцьце запраўдную любасьць да нашага Стварца, якое ня можа быць без пашаны да дадзенае Ім нам роднае мовы й іншых асаблівасьцяў, ды бяз умілаваньня да гожага Краю, якім Ён нас абдарыў, а ў патрэбе й без змаганьня за волю Народу, зь якога мы пайшлі.

Ды не давайце веры зманным намовам ілжэпастыраў, што перакручваюць Божае слова ў дагоду сілам гэтага сьвету, а прыслухоўвайцеся да запраўднае Хрыстовае Навукі, якую абвяшчае свая родная Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ды дзейце паводле Яе.

За першую-ж дзею паводле гэтае Навукі пастаўце перад сабою ўзнаўленьне ў нашым Краі свае роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, каб зь Ейных сьвятыняў няспынна ўздымалася хвала нашаму Збаўцу Ісусу Хрысту, нараджэньне Якога мы цяпер сьвяткуем, ды бесьперашкодна йшла да Беларускага Народу Ягоная Праўда.

Няхай-жа Збаўцовае прыяньне будзе з Вамі ў гэтай вялікай Справе й Ягонай шчодрасьці да Вас хай ня будзе мяжы!

**+ І з я с л а ў**
Мітрапаліт і Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы



## АДПРАВЫ
### Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ АД КАЛЯД ДА ВЯЛІКАДНЯ

Божыя Службы Калядняю парою ды ў далейшыя сьвяты аж да Вялікадня будуць ісьці паводле ніжэй пададзенага парадку (усе даты паводле новага стылю):

Наконадні Каляд, або йнакш на Куцьцю, у панядзелак, 6-га студзеня, а 6.00-й г. вечара - Вялікае Павячэрра з Ранічняй.

У дзень ХРЫСТОВАГА НАРАДЖЭНЬНЯ, у аўторак, 7-га студзеня (першы дзень Каляд) - пачатак Сьв. Літургіі а 10.00-й г. раніцы.

На Новы Год (паводле старога стылю), у аўторак, 14-га студзеня, адправы ня будзе.

На Вадохрышча, у нядзелю, 19-га студзеня - пачатак Сьв. Літургіі а 10.00— г. раніцы. Усьлед пасьля Сьв. Літургіі будзе Вялікае Асьвячэньне Вады. З гэтага дня пачнецца абход дамоў з Вадохрышчанскай вадою. Просьба да парахвіянаў загадзя

## ДОБРА НАВІНА
(Калядка)

Першым навіну ангял наказаў
Ночкай у полі ціхім пастырам:
"Устаньце пастыры, зорка угары
Над Бэтлеэмам так ясна гарыць;
Добру навіну зорка весьціць нам -
Сёньня радзіўся Сусьвету Уладар!"
Добра навіна - сёньня Каляда,
Каляда, Каляда!

"Йдзеце па шляху вы за зоркай той,
Звыш над павецяй аж стане старой;
Прывітайце вы ды дайце дары
Таму Дзіцятку, што ў яслях ляжыць,
Добру Навіну бо абвесьціць вам
Там нараджоны Сусьвету Уладар!"
Добра навіна - сёньня Каляда,
Каляда, Каляда!

Пастыры пайшлі, ангял як навёў,
Перад Дзіцяткам упалі чалом.
Дык пайдзема й мы, так, як пастыры,
Дзіцятка-Бога падзякай дарыць;
Добру Навіну бо прынёс Ён нам -
Усім дасьць збаўленьне Сусьвету Уладар!
Добра навіна - сёньня Каляда,
Каляда, Каляда!

Б. Д.



На Грамніцы, у сыботу, 15-га лютага, адправы ня будзе.

Запускі сёлета выпадаюць у нядзелю, 9-га сакавіка, а Вялікі Пост пачынаецца ў панядзелак, 10-га сакавіка.

На Дабравешчаньне, у панядзелак, 7-га красавіка, адправы ня будзе.

На Вербніцу, у нядзелю, 20-га красавіка - пачатак Сьв. Літургіі з асьвячэньнем вербаў а 10.00-й г. раніцы.

У Вялікі Чацьвер, 24-га красавіка - Успамін Хрыстовых Мукаў (12 Эвангельляў) - пачатак а 6.00-й г. увечар.

Вялікая Пятніца, 25-га красавіка - Вячорня й вынас плашчаніцы на ўспамін Хрыстовых Паховінаў - пач. а 6-й г. в.

Вялікая Сыбота, 26-га красавіка - Паўночніца, пачатак а. г. 11.30 увечар.

ВЯЛІКДЗЕНЬ, нядзеля, 27-га красавіка - Крыжны Йсьцеж (Ход) і Зараньня, ды ўсьлед Сьв. Літургія - пачатак а 12.00-й г. уначы. Пасьля адправаў асьвячэньне пасхаў. Удзень адправаў ня будзе.

Парадак Божых Службаў у сьвяты пасьля Вялікадня вясною й улетку будзе пададзены ў наступным нумары "Ц.П.".

У нядзелі, ад апошняе ў кастрычніку й да апошняе ў красавіку, Сьв. Літургія пачынаецца а 10.00-й г. раніцы, а зь першае ў травені да перадапошняе ў кастрычніку а 9.00-й.

Сьвяты, што прыпадаюць у тыдні, калі не абвешчана загадзя йнакш, адзначаюцца ў найбліжэйшыя нядзелі.

Кожнае нядзелі праз цэлы год, пачынаючы поўгадзіны перад пачаткам Сьв. Літургіі, можна спавядацца.

У гэтым самым часе, або яшчэ лепш на колькі дзён раней, можна таксама замаўляць паніхіды й малебны, ды падаваць сьпіскі імёнаў на ўспамінаньне.

Адрыс Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага: 401 Atlantic Avenue, Brooklyn, N.Y. 11217-1702 (corner Bond St.).

Даезд падземкай: A, C & G lines to Hoyt-Schermerhorn St. Station, lines 2, 3, 4 & 5 to Nevins Street Station.

Даезд з Лонг Айлэнд чыгункай LIRR to Flatbush Avenue Station.

Самаходам: па Brooklyn-Queens Exp'way to Atlantic Ave. Exit.

НАВЕДВАЙЦЕ СВАЮ РОДНУЮ СЬВЯТЫНЮ!



## АРХІЯПІСКАП ВАРЛААМ ШЫШАЦКІ

У папярэднім нумары "Царкоўнага Пасланца" мы пісалі праз Кангрэгацыю, або йнакш Сабор Праваслаўнае Царквы ў Рэчыпаспалітай, што ўлетку 1791-га году ў Пінску ўхваліў ейную аўтакефалію ды якім, з прычыны займа ўсьлед краю расейскай імпэрыяй, і зачынілася пара асобнага ад Масквы йснаваньня гэтае Царквы на землях Вялікага Княства Літоўскага ды правабярэжнае Украіны.

Маскоўская акупацыя, аднак, ня была канцом імкненьня да дзяржаўнае й царкоўнае незалежнасьці ў нашым Краі, а неўзабаве выклікала спробы, побач із узнаўленьнем Вялікага Княства Літоўскага, ужыцьцявіць і пастановы Пінскае Кангрэгацыі.

Справе гэтага ўжыцьцяўленьня ахвяраваў сябе магілёўскі архіяпіскап Варлаам Шышацкі, за што й заплаціў мучаніцкім жыцьцём ды сьмерцяй.

Гэты ягоны вялікі ўчынак, як і нязвычайнае жыцьцё, ды цярпеньні, якія ён дазнаў ад расейскага самадзяржаўя за права нашага Народу маліцца ў сваёй роднай Праваслаўнай Царкве, заслугоўваюць на ўведаньне ды ўшанаваньне іх, дзеля чаго мы спрабуем падаць гэтта даступныя нам праз іх весткі.

Варлаам Шышацкі, у сьвецкім жыцьці Рыгор, паводле некаторых з гэтых вестак, нарадзіўся ў 1750-м годзе ў сяле Красілаўка, Чарнігаўскае губэрніі, а паводле іншых у 1751-м у м. Шышацку, адкуль, мабыць, і пайшло ягонае прозьвішча.

Асьвету здабываў у Пераяслаўскай Духоўнай Сэмінарыі, ці калегіюме, а пэўна й ў Кіяўскай (магілянскай) Акадэміі, бо цяжка дапусьціць, каб бяз гэтага ён так хутка, як гэта сталася, мог узьняцца на даволі высокія становішчы ў царкоўнай адміністрацыі й школьніцтве.

Бо, хоць у манаства ён пастрыгся ў 1776-м годзе, ужо раней пачаў быць настаўнікам, ды затым прэфэктам, а ўрэшт стаў і рэктарам Пераяслаўскае Сэмінарыі (Калегіюму).

Да гэтага ў 1780-м годзе быў прызначаны на йгумена Машнагорскага манастыра, а ў 1781-м перанесены на гэткае-ж становішча ў Сьв. Міхайлаўскі манастыр у Пераяслаўлі.

У 1785-м годзе Пераяслаўская япархія далучаецца да Кіяўскае мітрапалічае катэдры, а Пераяслаўскі япіскап Іларыён Кандраткоўскі пастаўляецца на кіраўніцтва новастворанае Ноўгарад-Северскае япархіі ды з дазволу сыноду забірае з сабою Пераяслаўскую Духоўную Сэмінарыю, разам зь ейнымі настаўнікамі й рэктарам, Варлаамам Шышацкім, на чале.

Гэтта апынулася й пашырылася завязанае яшчэ ў Пераяслаўлі кола люботнікаў украінскае мінуласьці, сутычнасьць зь якім, пэўна-ж, не засталася бяз уплыву на затоенае ў сэрцы маладога царкоўнага дзеяча ягонае нязгоднае настаўленьне да тагачасных дзяржаўных й царкоўных парадкаў у зайнятай Маскоўшчынай Украіне.

Падобныя, адмоўныя й да дзяржаўнае палітыкі Рэчыпаспалітае ды становішча ў ёй Праваслаўнае Царквы, пагляды займеў Варлаам Шышацкі, калі ў 1787-м годзе быў накіраваны на становішча йгумена Сьв. Духавага й іншых манастыроў у Вільні, ды пазнаёміўся зь бяспраўным жыцьцём праваслаўных вернікаў у Вялікім Княстве Літоўскім.

Побыт у Вільні, аднак, ня трываў доўга, бо ягоны супраціў польскай і каталіцкай несправядлівасьці выклікаў няміласьць дзяржаўных уладаў, дзеля чаго ў 1791-м годзе давялося выехаць у Расею ды, разам з павышэньнем на архімандрыта, прыйняць прызначэньне на йгумена Кірылаўскага, а пазьней і Вяжыцкага, манастыроў ды прэфэкта духоўнае сэмінарыі ў (Вялікім) Ноўгарадзе.

Дарэчы тут успомніць, што ў той час Праваслаўная Царква ў Рэчыпаспалітай, ад вымушанае ў 1687-м годзе згоды на гэта ад Канстантынопальскага Патрыярха, была пад маскоўскай юрысдыкцыяй і таму расейскі сынод мог ставіць духаўнікоў на пасады як у Расеі, гэтак і ў Вялікім Княстве Літоўскім, ды правабярэжнай Украіне.

Пасьля таго, як, устрывожаная рэфарматарскімі асягненьнямі ў Рэчыпаспалітай і ўстанаўленьнем у ёй у 1791-м годзе аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, Расея зайняла большасьць тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, архімандрыт Варлаам Шышацкі быў прызначаны на памочніка архіяпіскапу Віктару Садкоўскаму, які ачоліў заснаваную ў 1791-м годзе Менскую япархію.

Разам з гэтым ён выконваў і йгуменскія абавязкі ў Дзятлавіцкім Збаўца-Зьмяненскім манастыры.

У 1795-м годзе Варлаам Шышацкі атрымоўвае япіскапскае ўсьвячэньне з названьнем жытомірскага япіскапа, менскага вікарыя ды ўсьлед, калі ў 1796-м годзе была створаная асобная Валынская япархія, ён гэтую япархію ачольвае.

На гэтым становішчы ён плодна дзее як царкоўны адміністратар ды, заснаваньнем Астрожскае Духоўнае Сэмінарыі й прыбочных да яе школаў, пакідае трывалы сьлед гэтае дзейнасьці.

У 1805-м годзе Варлаам Шышацкі быў прызначаны на япіскапа Беларускага й Магілёўскага, а ў 1808-м узвышаны ў годнасьць архіяпіскапа Магілёўскага й Віцебскага.

Успамін вучня Магілёўскае Духоўнае Сэмінарыі таго часу, пазьней ведамага лексікаграфа й фальклярыста І. Насовіча, апісвае архіяпіскапа Варлаама як прыкладнага манаха, што быў дзейны, нястомны й патрабавальны да ўсіх тых, хто ўхіляўся ад праўдных шляхоў ды любіў праўду, а не цярпеў хітрасьці й ліслівасьці, асабліва ў духоўных асобаў.

Іншыя сучасьнікі падкрэсьлівалі, апрача таго, шырокі абсяг ягоных як багаведных, гэтак і агульных ведаў.

Трэба дадаць, што ў ягонай душы мусела быць яшчэ й гарачае пачуцьцё мяйсцовага патрыятызму, што прымусіла яго, калі настала патрэба, зрабіць крок, за які заплаціў пакутамі да канца жыцьця.

Улетку 1812-га году пачалася, бо, француэска-расейская вайна й маскоўская армія пакацілася на ўсход, а ў пачатку ліпеня, вітаныя насельніцтвам, напалеонавыя войскі пад камандай маршала Даву зайнялі Магілёў.

Адразу-ж пасьля гэтага пачалося фармаваньне мяйсцовае адміністрацыі, вэрбаваньне нацыянальнага войска ды неўзабаве дайшла чарга й да справаў

адзьдзелам царскае дзяржаўнае службы.

Дзеля зьмены гэтага стану магілёўская часовая адміністрацыйная камісыя, 10-га ліпеня, загадала архіяпіскапу Варлааму "учыніць прысягу на вернасьць францускаму імпэратару й успамінаць яго ў адправах".

Параіўшыся зь сябрамі кансысторыі й выслухаўшы аргумэнты праваслаўнага зь веры гэнэрала Хамантоўскага, што наведаў яго, архіяпіскап Варлаам 14-га ліпеня ў катэдральным саборы даў прысягу на вернасьць Напалеону.

Прысяга ня была, аднак, вымушаным учынкам, а выявам перакананьняў гэтага царкоўнага дастойніка, аб чым сьветчаць словы ягоных сучасьнікаў і супрацоўнікаў.

Паводле іхных сьветчаньняў архіяпіскап Варлаам ведаў і ўхваляў пастановы Пінскае Кангрэгацыі 1791-га году, ды сымпатызаваў ідэі нятолькі стварэньня беларуска-украінскае аўтакефальнае праваслаўнае царквы, але й асобнага патрыярхату.

На ўжыцьцяўленьне гэтае вялікае мэты, як паказвае ягоная дзейнасьць тае кароткае пары, і ахвяраваў ён сваё жыцьцё.

Нажаль ягоным высокім імкненьням не давялося збыцца, бо ўзаімкі таго-ж 1812-га году францускае войска пачало адступацца на захад і наш Край узноў апынуўся пад расейскай акупацыяй, што прынесла й разьлікі зь нястрывалымі ў вернасьці цару падданымі.

Хоць гэтыя разьлікі ў жорсткасьці ды абыйме й не дасяглі пазьнейшых мураўёўскіх, Маскоўская імпэрыя, усё-ж, не даравала похісту ў ейнай галоўнай апоры - расейскай праваслаўнай царкве й найцяжэйшы выцень ейнае помсты ўпаў на Варлаама Шышацкага.

Паводле зацьверджанае Аляксандрам І-м пастановы сыноду ён быў пазбаўлены япіскапскае годнасьці й падчас агіднага зьдзеку з царкоўных адправаў абдзерты з архіпастырскіх убраньняў, ды бяз права сутыкацца зь кім-колечы замкнёны да канца жыцьця ў Ноўгарад-Северскім Збаўца-Зьмяненскім манастыры.

Не зважаючы на гэтую забарону кантактаў, мяйсцовая інтэлігэнцыя ў Ноўгарадзе-Северскім ды нат вучнёўская моладзь ня цураліся наўчонага архіпастыра й у гутарках зь ім пераймалі ягоныя веды, а калі асьлеп і занядужаў, памагалі й апекаваліся ім, аж да ягонае пакутнае сьмерці ў 1823-м годзе (у некаторых крыніцах - 1820-м).

Зь вялікай ухвалай пастырскае дзейнасьці, ды глыбокай пашанай да асабістых якасьцяў гэтага выдатнага чалавека, адзначаючь яго й успаміны ягоных сучасьнікаў.

Трэба й нам нятолькі паважаць памяць гэтага праведніка й пакутніка, але дакладна дасьледаваць ягоную ахвяру на справу аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы на нашай Бацькаўшчыне, ды пакланіцца яму за гэтую заслугу перад Богам і Беларускім Народам ягонай кананізацыяй.

Б. Сурынец

**ЧЫТАЙЦЕ Й РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ " ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА"- АДЗІНЫ ЧАСАПІС ПРЫСЬВЕЧАНЫ ІДЭІ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ**

## СА СЬВЯТАМІ

Надыходзяць сьвяты Каляд,
Ня кожны з нас вясёл і рад,
Розныя маем прычыны,
А найбольш з нашай краіны.

Будзем верыць, спадзявацца,
Народ будзе дабівацца,
Каб жыцьцё было свабодным
На радзіме - Краі родным.

Беларусь каб расьцьвітала,
Родна мова не завяла,
Дабрабыт наведаў хаты,
А народ каб стаў багаты.

Дай Беларусам Новы Год
Пазбыцца зьдзекаў і нягод, -
Гэта ёсьць мае жаданьні
І сьвяточны прывітаньні.

Ю. Весялкоўскі



## СЛУЖБОЎНІК

(ПРАЦЯГ З Н-РОЎ 2, 3 -1995 і 1, 2-3 -1996)

У папярэднім нумары "Царкоўнага Пасланца", пасоўваючыся ў аглядзе пад фірмай БАПЦ, бяз права на гэта, у 1994-м годзе ў Таронта выдадзенага перакладу "Службоўніка" мы спыніліся ў канцы 6-га складу Выяву веры й таму цяпер падамося далей.

7. 7-мы склад Выяву веры пацаркоўна-славянску гучыць: "и паки грядущаго со славою судити живым и мертвым, Его-же царствію не будет конца".

Перакладнік "Службоўніка" пераказвае яго гэтак: " І зноў прыйдзе ў славе судзіць жывых і памерлых, і Ягонаму валадарству ня будзе канца".

Ува ўсіх іншамоўных выданьнях, зь якімі знайшлася магчымасьць зьверыць гэты склад, у ягоным пачатку кажацца, што Хрыстос "узноў прыйдзе з славаю" дык і нам трэба было-б гэтую думку захоўваць.

Далей таксама "валадарства" ня зусім адказвае сэнсу царкоўна-славянскага "царствія", бо яно ў гэтым выпадку разумеецца як вечная шчаснасьць, або рай, а ня сьветні абсалютызм, адцень чаго ў слове "валадарства" ёсьць і таму лепш на ягонае мейсца паставіць "гаспадарства".

Гэткім чынам 7-мы склад Выяву веры пабеларуску трэба было-б выказаць вось як;

*"Ды ўзноў прыйдзе йз славай судзіць жывых і памерлых, Ягонаму-ж Гаспадарству ня будзе канца".*

8. Царкоўна-славянскі тэкст 8-га складу Выяву веры гэткі: "И в Духа Святаго, Господа, животворящего, Иже от Отца исходящаго, Иже со Отцем и Сыном спокланяема и сславима, глаголавшаго пророки".

У "Службоўніку" ён напісаны гэтак: "Верую ў Духа Сьвятога, Госпада жыцьцятворчага, Які ад Айца зыходзіць, Каму нароўні з Айцом і Сынам пакланеньне й слаўленьне належаць, Які вяшчаў праз прарокаў".

Перадусім "верую" разумеецца як пачатак кожнага

складу, але, каб ня зьбіваць думкі, ня пішацца й ня друкуецца, дык і ўстаўляць яго раптам у сярэдзіне няма патрэбы.

Да гэтага, як ужо было папярэдня сказана, самое слова "верую" ня свомае нашай мове й аддае русыцызмам, ад якога лепш усьцерагацца.

Далей перакладнік узноў калечыць нашую мову, стаўляючы прыметнікі пасьля назоўнікаў, як "Духа Сьвятога, ці "Госпада жыцьцятворчага", замест "Сьвятога Духа" й "жыцьцятворчага Госпада".

У апошнім злучэньні словаў перакладнік, да таго, не зварочвае ўвагі на коску, што ў царкоўна-славянскім тэксьце стаіць пасярэдзіне, якою й пабеларуску трэба адзьдзяліць "Госпада", ці, не баючыся свае мовы, "Гаспадара", ад "жыцьцятворчага", адзіна магчымым спосабам, кажучы "што стварае жыцьцё".

Сьледам за гэтым яшчэ й "иже" не адпавядае "які", але "той, што", ды "исходящаго" значыць "той, што выходзіць", ці "йдзе", а ня "зыходзіць", або "саступае".

Пастаўленае ў перакладзе пасьля наступнага "иже" "Каму" (!) яшчэ раз паказвае няведаньне беларускае мовы й чужынскі спосаб думаньня, бо гэтта падыходзіць адно "той, што", ці ў выпадкавай зьмене (склоне) "таго, што".

Стаўляць, усё-ж, адно за адным "той, што", ці "таго, што" у гэтым мейсцы зусім няма патрэбы, бо думку панашаму можна выказаць іншым злучэньнем словаў, што й зробім ніжэй.

Перад тым нельга, аднак, змоўчаць не сказаўшы, што "глаголавшаго" ня значыць "які вяшчаў", а "той, што маўляў (казаў, гаварыў)", як гэта можна заўважыць і ў іншамоўных перакладах.

Злажыўшы ўсе зробленыя заўвагі ў адно 8-мы склад Выяву веры трэба перакласьці вось гэтак:

*"І ў Сьвятога Духа, Гаспадара (Госпада), што стварае жыцьцё, а йдзе ад Айца, ды Яму з Айцом і Сынам пакланеньне й слаўленьне ўраўні, Ен-жа маўляў праз прарокаў"*.

9. "Во едину Святую, Соборную и Апостольскую Церковь".

Гэты склад Выяву веры ў "Службоўніку" пераказаны гэтак: "Верую ў адзіную Сьвятую, Саборную і Апостальскую Царкву".

Ня будзем паўтараць вышэй надрукаванае гутаркі празь "верую" й "адзін-ы(-ая), а скажам адразу, што "верую" гэтта непатрэбнае, ды "адзіную" трэба заступіць словам "адну".

Неабходна таксама, пакідаючы пакуль-што ў перакладзе слова "Саборную", зрабіць заўвагу, што яно, усё-ж, замест адкрыць ягоны запраўдны сэнс ў арыгінале - "паўсюдная, сусьветная", стварае памылковае ўражаньне гутаркі праз парлямантарны лад у Царкве, але гэта вельмі далікатнае пытаньне, якое, каб ня лучыць у гарэтыкі, адложым на пазьней.

Таму 9-ты склад Выяву веры павінен гучэць:

*"У адну Сьвятую, Саборную й Апостальскую Царкву""*.

10. "Исповедую едино крещеніе во оставленіе грехов".

Таронцкі адпаведнік гэтага складу гучыць гэтак: "Вызнаю адзін хрост на вызваленьне ад грахоў".

**ЗАСЛУЖАНАГА ЦАРКОЎНАГА ПРАЦАЎНІКА Й НАЦЫЯНАЛЬНА-ГРАМАДЗКАГА ДЗЕЯЧА**

**ПЁТРУ МАНЬКОЎСКАГА**

**ВІТАЕМ З 80-МІ ЎГОДКАМІ НАРАДЖЭНЬНЯ Й ЖАДАЕМ З БОЖАЕ ЛАСКІ ШМАТ ГОД У ДОБРЫМ ЗДАРОЎІ З ПОСЬПЕХАМ ПРАЦАВАЦЬ НА ДАБРО БАПЦ І БЕЛАРУСІ**

У ім, каб захаваць сугучнасьць з арыгіналам, замест "хросту", можна было-б сказаць і "хрышчэньне", але перакладаць "оставленіе", дзе думка праз тое, каб Бог дараваў, або, інакш, адпусьціўся (на) да каго за грэх, як "вызваленьне", нядужа пісьменна.

Гэтта, бо, толькі "адпушчэньне" на мейсцы, ды яшчэ, пакольки хрышчэньне ёсьць ягонай неабходнай умовай, лепш было-б, замест "на", сказаць "дзеля адпушчэньня грахоў".

Дзеля гэтага й увесь 10-ты склад лепш гучэў-бы вось як:

*"Вызнаю адно хрышчэньне дзеля адпушчэньня грахоў"*.

11. "Чаю воскресенія мертвых".

У "Службоўніку" гэты склад перададзены гэтак: "Чакаю ўваскрасеньня памерлых".

У папярэднім нумары "Ц.П." была ўжо гутарка праз слова "ўваскрос" і, каб над ім узноў не развражаць, скажам, што "устаць з памерлых" зусім тое самае й больш зразумелае.

Таму й 11-ты склад Выяву веры панаску будзе гэтакі:

*"Чакаю ўстаньня памерлых"*.

12. "И жизни будущаго века. Амінь".

Перакладнік вылажыў гэтыя словы вось як: і жыцьця будучага веку. Амін".

Адразу гээта вуху дакучыць недапушчальны ў нашай мове дзеепрыметнік "будучага", празь які не застаецца нічога іншага, як перабудаваць сказ апісальным спосабам.

Перабудаваны, ён гучыць гэтак:

*"і жыцьця ў веку, што прыйдзе"*.

*"Амінь"*, як ужо было сказана раней, зусім ня трэба перакручваць на "амін".

На гэтым сёньня наш агляд і спынім, але перад разьвітаньнем да наступнага нумару "Ц.П." нельга змоўчаць трывогі за нашую мову, што агартае пры азнаямленьні зь перакладамі царкоўных тэкстаў, якія ў нас, як за мяжою, гэтак і на Бацькаўшчыне зьяўляюцца.

Часам ад гэтага здаецца, што ў нас працуе нейкая змова інкампэтэнцыі, якая паставіла сабе заданьне выкарыстаць усе магчымыя ідыятызмы, каб нашую мову зрабіць якнайбольш няўклюднай, асьмяшыць яе, ды канчаткова адбіць ад яе і так ужо ейнымі ворагамі няпрыязна настроеную масу нашых людзей.

Гэты агляд і йимкнецца ягонымі заўвагамі не дапусьціць, каб такое сталася. Барыс Данілюк

АДРЫС "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА" НА E-MAIL: belautoc@ix.netcom.com.

## НЯ Ў ЧУЖЫХ ЖАБРАВАЦЬ, А СВАЁ БУДАВАЦЬ

Рэлігійныя й царкоўныя справы цяпер раз за разам закранаюцца на бачынах прэсы ў Беларусі, хоць, нажаль, нічога з гэтага ня высьняецца, а, наадварот, становіцца яшчэ больш заблытаным і незразумелым.

Ды й ня дзіва, бо голас маюць толькі прадстаўнікі чужынскіх эклезыяльных структураў, а думцы запраўднае нацыянальнае Царквы, г.зн. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, няма мейсца.

Ня ўсё з гэтых блытных матарыялаў даходзіць за мяжу, але нядаўна да нас трапіў тэкст зьмешчанага ў "Народнай Газэце" зь 17-га-19-га жнівеня г.г. інтэрв'ю журналіста Юрага Чыгіра з прадстаўніком "адраджэнскага руху" ў Беларускай (чытай Расейскай) Праваслаўнай Царкве ў Краі а. прат. Юрым Латушкам, а зь ім разам і зь ведамым зь яговых публікацыяў на рэлігійныя, ці царкоўныя тэмы доктарам гістарычных навукаў Леанідам Лычом.

Як павялося ўжо і гэтым разам гутарка йшла найбольш праз малебную мову, мала кранаючы запраўдныя прычыны ненармальнае зьявы царкоўнае варожасьці ня толькі да мовы дзяржаўнага народу Беларусі, але й да самое ягонае дзяржавы.

Абодвы прадстаўнікі як-быццам нацыянальных кірункаў у рэлігійным жыцьці Краю, што давалі інтэрв'ю, рабілі ня вельмі ўдалыя экскурсыі ў гісторыю, каб знайсьці аб'ектыўныя тлумачэньні на тое, што ў нас рабілася й робіцца гвалтам.

У запраўднасьці-ж усё іхнае мудрагельства было сьціраванае на тое, каб адвесьці ўвагу чытачоў ад няхітрае думкі на здаровы розум, што дарэмна гаварыць праз нашую родную мову ў Царкве, ідэя й сэнс існаваньня якое ўрабоўліваньне народаў і зьнішчэньне іхных Богам дадзеных асаблівасьцяў, або, проста кажучы, духовае народагубства.

Доктар Леанід Лыч, як цывільны чалавек, займаў у інтэрв'ю другое да духоўнае асобы мейсца й, гаворачы нямала, у тым ліку й праз упадабалую яму вунію, нічога памятнага, аж пакуль не падыйшоў канец гутаркі, не сказаў, але аб гэтым пазьней.

Айцец-жа Латушка спрытна вяславаў у моўным пацёку, каб і чытачам правядным выдацца, ды й няправядным зьверхнікам ня ўвінавацціца.

Перш за ўсё зь ягоных словаў ствараецца ўражаньне, што на ўсім сьвеце ёсьць толькі адна праваслаўная царква, што ўся згодна моліцца й размаўляе ўскрозь на адной царкоўна-славянскай мове й таму гэтая царква, пэўна-ж, расейская.

Неазнаёмленаму з гэтым пытаньнем чалавеку можа й у голаў ня прыйсьці, што на зямлі здаўна ёсьць больш дзясятка нацыянальных праваслаўных цэркваў і кожная зь іх карыстаецца мовай або дзяржаўнага, або таго народу, сярод якога дзее.

Значыцца ніякае грэблівасьці да краёвае мовы, або ейнае забароны ў якой колечы, апрача расейскае, царкве няма й быць ня можа.

Але асьцярожны айцец затуманеным адказам паймкнуўся ўсьцерагчыся ад наступнага пытаньня, а гэта: чаму, калі іншыя народы маюць свае нацыянальныя (аўтакефальныя) праваслаўныя цэрквы цэрквы, мы, праваслаўныя беларусы, гэткае царквы ня маем.

Бо, каб, крый Божа, гэтае пытаньне больш дазнаны ў царкоўных справах, ці найняты ў іншай газэце, журналіст паставіў, давялося-б сказаць праўду, што мы на Бацькаўшчыне пазбаўленыя роднае, чуткае да нашых нацыянальных патрэбаў і бедаў, Праваслаўнае Царквы ня Божым, ці людзкім правам, а маскоўскім гвалтам.

Замест гэтага ён пакіраваў гутарку на палоханьне кананічнымі сьляпымі вулкамі, зь якіх, каб займець сваю царкву, няйнакш як бяз сусьветнага рэфэрэндуму, выбрацца ня можна.

Існаваньне аўтакефальных нацыянальных цэркваў і гісторыі іхных утварэньняў сьветчаць, аднак, што гэта й ёсьць правільны лад пабудовы Хрыстовае Царквы на зямлі.

Ды не ў канонах, зрэштай, справа бо айцец ведае, але, калі ня пытаюць, ня кажа, што колькі-б тых рэфэрэндумаў і згодаў ад іншых цэркваў ня было, Расейская Праваслаўна Царква на беларускую аўтакефалію не дазволіць, бо праз гэта трэба было-б адмовіцца ад ідэі й сэнсу ейнага йснаваньня як духовага рухавіка маскоўскага імпэрыялізму.

Замест таго ён пажаліўся, з аднаго боку, на нястачу нацыянальна сьведамых сьвятароў, а з другога, заявіў, што ня справа Царквы займацца нацыянальным адраджэньнкем, бо гэта, быццам, другараднае й вернікаў, выглядае, можна весьці ў райства на небе навучаючы адракацца нацыянальнае духовае спадчыны й гэтым ламаць Божыя запаведзі.

На гэтую заяву прадстаўніка "адраджэнскага руху" ў Экзархаце РПЦ на Беларусі доктар Лыч запярэчыў, што абыякавасьць да нацыянальных патрэбаў рэч нармальная, стаўляючы ў прыклад ролю Расейскае Праваслаўнае Царквы ў станаўленьні маскоўскага народнага сьветапогляду.

Ягоныя словы варта тут паўтарыць:

*"Не сакрэт, Руская праваслаўная царква адыграла велізарнейшую ролю ў справе нацыянальнага выхаваньня, кансалідацыі рускага народа, ва ўмацаваньні дзяржаўных пачаткаў ў жыцьці краіны. І сёньня Руская праваслаўная царква Расіі бярэ чынны ўдзел ў дзяржаўнай нацыянальнай палітыцы, адкрыта выказваецца за паглыбленьне інтэграцыі ўсходнеславянскіх краін".*

Шкада толькі, што ўсьлед і ён жаліцца:

*"А ў нас праваслаўе і слова баіцца сказаць на карысьць дзяржаўнага сувэрэнітэту, мала што робіць, каб наблізіць сваю паству да роднай ёй мовы".*

Каму ўжо, як ня доктару Лычу павінна было-б быць зразумела, што Расейская Праваслаўная Царква, выконваючы ейную ролю маскоўскага нацыянальнага кансалідатара й завадатара, ніколі ня возьмецца за гэтую справу на карысьць Беларускага Народу, бо гэта рэчы для яе нясумяшчальныя.

Дык, ці не пара была-б перастаць жабраваць ласкі ў тых, хто яе, із свае натуры, ня дасьць, а ўзяцца як адзін за ўзнаўленьне свае роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што выканае Ейную ролю ў нацыянальным жыцьці?!

Б.Шчарыч

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ БРАЦТВЫ Ў НАШАЙ МІНУЛАСЬЦІ

Праваслаўныя брацтвы пачалі засноўвацца ў Вялікім Княстве Літоўскім, як даўней называлася нашая Бацькаўшчына, у трэйцяй чвэрці XVI-га стагодзьдзя.

Стварэньне немалога ліку гэтых брацтваў па ўсёй краіне было вынікам нутранога й вонкавага становішча Праваслаўнае Царквы ў Літоўскім Гаспадарсьцьве з аднаго боку ды, калі можна сказаць, настроям тае пары з другога.

Што да нутранога стану Праваслаўнае Царквы дык быў ён зусім незайздросны, бо спрычыненая заняпадам Ейнае ранеейшае фактычнае аўтакефаліі слабасьць (а парой і адсутнасьць) мяйсцовае герархіяльнае ўлады ды праз гэта й падлеглае арганізацыйнае структуры ня спрыяла адстойваньню належных самой Царкве пазыцыяў супраць дзяржаўнага веравызнаньня - каталіцтва, а нейкі час нават і рэфарматарскага руху, навонкі.

Гэткі крыўдны склад рэчаў выклікаў, пэўна-ж нездаволеньне бальшыні насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага, што заставалася праваслаўным ды адукаваная частка якога з назіраньня дзейнасьці рэфарматараў пазнала карысьць творчага актывізму вернікаў у рэлігійным жыцьці.

Дзейнасьць брацтваў якраз і адчыніла поле дзеля гэткага канструктыўнага актывізму сярэдняе клясы тагачаснага грамадзтва: купцоў, рамесьнікаў і шляхты, што, калі прыгледзецца, пакінуў значны сьлед у нашай царкоўнай і культурнай спадчыне.

Сягаючы ў сваіх мэтах паза рамкі парахвіяльнага жыцьця брацтвы арганізацыйна будаваліся на стаўрапігіяльных асновах, г.зн. паўставалі з дазволу ды падлягалі ўладзе патрыярха ў Канстантынопалі, ад якога атрымоўвалі, ці які зацьвярджаў статуты ("чыны") дзеля іхнае дзейнасьці. Правы брацтваў неаднаразова замацоўваліся й каралеўскімі прывілеямі.

Некаторыя брацтвы былі толькі мяйсцовымі, іншыя-ж ахаплівалі адзін, або й колькі паветаў, як Вільнянскае, ці Берасьцейскае.

Больш ведамыя з брацтваў былі: Вільнянскае Траецкае (засн. 1584), Крычаўскае (1588), Рагацінскае (1589), Магілёўскае (1590), Берасьцейскае (1591), Гарадзенскае (1591), Гарадоцкае (1591), Менскае "Шпітальнае" (1592), Бельскае (1594), 2-е Менскае Пятрапаўлавае (1613), Пінскае (дата заснаваньня не ўстаноўленая).

Пад наглядам старэйшых існавалі таксама й брацтвы для моладзі, напр. у Магілёве, або "Студэнцкая Кангрэгацыя Сьвятых Канстанціна й Алены" ў Вільні.

Каб забясьпечыць посьпех іхнае дзейнасьці брацтвы муселі рупіцца праз павышэньне рэлігійнае й царкоўнае сьведамасьці братчыкаў.

Як высака гэтая сьведамасьць была ўзьнятая сьветчаць асягненьні зробленыя брацтвамі за параўнальна кароткі час іхнага росьцьвіту, галоўна на школьнай і выдавецкай ніве.

Школы былі ўтрымоўваныя брацтвамі шмат дзе, як напр. у Берасьці, Магілёве, Менску, Бельску, Пінску, Воршы, Ельні, Шклове, Еўі, Кронях, пры Цеперскім ды Куцейненскім манастырох і інш.

Хоць усе яны былі на высокім узроўні й адказвалі тагачасным патрэбам, выдатнае мейсца ўперадзе ўсіх зайняла, аднак, школа Вільнянскага брацтва закладзеная ў 1584-м годзе.

Першым плюсам гэтае, як, дарэчы, і іншых брацкіх школаў, была адсутнасьць вузкае дактрынальнасьці, што давала магчымасьць узгодніць выкладаньне з навуковымі патрабаваньнямі тае пары.

Праграма навучаньня абыймала: чытаньне й пісаньне, граматыку, рыторыку, арытмэтыку, царкоўны ўстаў зь пяяньнем, Сьвятое Пісьмо, геаграфію, дыялектыку, астраномію, пяць моваў (беларускую, царкоўна-славянскую, грэцкую, лацінскую й польскую), выясьненьне сьвятаў ды навуку аб дабрадзействах.

Абсяг і ўзровень праграмы вымагаў другога плюсу, які бачым у складзе настаўнікаў, што ўлучаў гэткіх выдатных навукоўцаў, як Лаўрына й Сьцяпана Зызаніх, Мялеця Сматрыцкага, Кірылу Транквілёна, Лявонта Карповіча, Язэпа Бабрыковіча, Сыльвэстра Косава, Ізаю Казлоўскага й інш.

З гэтых плюсаў вынікалі й далейшыя, а гэта пэдагагічныя інавацыі наўзор пачатку падзелу вучняў на клясы, падыход да ўзгадаваньня дзяцей і моладзі ды пад.

Калі дадаць, што навучаньне ў Вільнянскай школе (як і ў Магілёўскай) было бясплатнае дык бачым якую запраўды волатнюю працу зрабілі праваслаўныя брацтвы ў нашай мінуласьці.

Але побач із школьнай ішла й выдавецкая дзейнасьць брацтваў, а разам зь ёю й пашырэньне кнігаў на ўсёй прасторы гаспадарства.

Гэтай мэце служылі галоўна брацкія друкарні ў Вільні ды Еўі, дзе друкаваліся між шмат іншых і творы Зізаняга й Сматрыцкага.

Усё, што брацтвы зрабілі на школьнай і выдавецкай ніве заслугоўвае ацэны як выдатны рэлігійны й нацыянальны здабытак.

Ня трэба, аднак, забывацца, што апрача гэтага брацтвы памагалі ў парахвіяльным і агульнацаркоўным жыцьці, будавалі сваёй ахвярнасьцяй царкоўныя й школьныя будынкі, займаліся дабрадзейнасьцяй ды ня цураліся палітыкі, калі яна закранала Праваслаўную Царкву й Ейных вернікаў.

Узважыўшы ўсё гэта нельга йнакш як з пашанай успомніць і аддаць чэсьць тым шматлікім, а сёньня бязыменным братчыкам, верным і ахвярным сынам нашае Царквы й Краю, што калісь змаглі такое асягнуць.

Ды трэба ўпрашаць Божае Ласкі, каб, побач з узнаўленьнем на Бацькаўшчыне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, узнавілася й дзейнасьць брацтваў, зь якою паспарыцца й духовае адраджэньне Беларускага Народу.

Я. Сланімчанін

## ПСАЛЬМ 22
(Пераказ Б.Д.)

Мой Гаспадар мяне пасе -
У нічым нястачы я ня маю:
На пасту сытную вядзе
Ды поіць з чыстага ручаю.

Душы ў трывозе моц дае,
Нявлудлай сьцежкаю кіруе;
Ягона Імя заслонай мне -
Ускрозь адважна зь Ім іду я.

І ў лог цьмяны як сьцеж зыйдзе
Бяды ніякай не спаткаю,
Бо Ён усьцяж каля мяне
Ад крыўды дбайна ўсьцерагае.

Саджае ўпоруч пры стале
На зайздрасьць тым, хто ня прыяе,
На косы мне але ільле,
Наўздоваль коўню напаўняе.

Даброць і ласку ўсьцяж Ён шле,
Усім кожны дзень шчадруе,
У сваім Двары прыпын дае,
Дзе ўжо навек спачын знайду я.



## КАНАНІЗАЦЫЯ МІТРАПАЛІТА ПЕТРЫ МАГІЛЫ

Вялікая частка нашае царкоўнае гісторыі, пры значных краёвых розьніцах, супольная з украінскай, бо стагодзьдзямі мы былі ў супольнай з нашымі суседзямі Праваслаўнай Кіяўскай, або Навградзкай Мітраполіі.

За гэты доўгі час было даволі шанаваных сёньня абодвама народамі падзеяў і зьявіўся ці-адзін Богу й людзям дагодны ягонымі дзеямі чалавек, памяць якога цяпер усьвячаецца ў абодвых краёх.

Адно з найвыдатнейшых мейсцаў сярод іх займае Кіяўскі Мітрапаліт Пётра Магіла, што нарадзіўся ў 1596-м годзе, а займаў пасад ад 1633-га году да ягонае сьмерці ў 1647-м.

Гістарычнае вагі дзейнасьці гэтага царкоўнага дастойніка "Царкоўны Пасланец" у недалёкай будучыні прысьвеціць адумысловы артыкул, але ўперад яго трэба сказаць, што Пётра Магіла быў чалавекам, які выратаваў Праваслаўную Царкву ў Рэчыпаспалітай ад загібелі.

Асягнуў ён гэта, у першую чаргу, заснаваўшы ў Кіяве вышэйшую духоўную школу, што пазьней стала ведамай як Магілянская Акадэмія, ды багаведна-пісьменьніцкай дзейнасьцяй.

З гэтае высокае школы выйшла й нямала гадунцоў, што служылі й прасьледаваным польскімі каталікамі й вуніятамі праваслаўным вернікам у Вялікім Княстве Літоўскім.

Сёлета ўвосень выпала якраз 400 год ад нараджэньня гэтага волатняе велічы царкоўнага будаўніка й з гэтае нагоды Кіяўскі Патрыярхат Украінскае Праваслаўнае Царквы наважыў усьвяціць ягоную памяць кананізацыяй.

Абвешчаньне кананізацыі Мітрапаліта Пётры Магілы, пасьля загадзьных урачыстасьцяў, было вызначанае на пашыранае паседжаньне Архірэйскага Сабору ў Кіяўскай Сьв.-Уладзімерскай Катэдры 12-га сьнежня 1996-га г.

На пашыранае паседжаньне Архірэйскага Сабору УПЦ і кананізацыйныя ўрачыстасьці быў асабіста Сьвяцейшым Патрыярхам Філарэтам запрошаны Першагерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Нажаль, зь недастатковага часу на заладжаньне падарожных фармальнасьцяў, з запросінаў не давялося скарыстаць.

З нагоды гэтае вялікае падзеі Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў выслаў Яго Сьвяцейству Патрыярху Філарэту прывітаньне.

## ХТО АПЯРЭДЗІЎ, А ХТО НЕ ДАГЛЕДЗЕЎ?...

Мы вельмі ўдзячныя рэдакцыі газэты "Літаратура і Мастацтва, што 13-га сьнежня г.г. была ласкавая передрукаваць на бачынах тыднёвіка зь невялікімі скарачэньнямі артыкул з папярэдняга нумару "Ц.П." п.н. "Узноў да Бабілёнскае вежы".

Прычынай гэтае ўдзячнасьці не адзін гонар быць заўважанымі здаўна ведамай газэтай творчае інтэлігэнцыі, але й усьцеха, што сярод оргіі паклонаў і хваласьпеваў Экзархату Маскоўскае Пратрыярхіі ў Беларусі наш заклік зазірнуць пад ягнячую аўчынку, якой гэтая ўстанова акрываецца й прыгледзецца да нявельмі схаванага ейнага воўчага грызла, загучэў з высокае трыбуны прафэсыйнае прэсы, хай сабе й зь дзе-якой засьцярогай.

Успомніўшы гэтую засьцярогу, дарэчы будзе паказаць нашым чытачам, што гучыць яна вось як:

"Ад рэдакцыі. Здаецца "Царкоўны пасланец" трохі апярэджвае падзеі, калі піша пра "ўлучэньне Беларусі ў Расію" як пра зьдзейсьнены факт. Занадта рэзкімі падаюцца і яго выпады супраць праваслаўнай царквы на Беларусі. Але памятаючы, хто стаяў поруч з прэзідэнтам калі ён падпісваў сваю ўласную канстытуцыю, мы ўсё ж друкуем гэты матарыял (у скарочаным і адаптаваным па правапісе выглядзе)".

Каб не заводзіць з рэдакцыяй "ЛіМ'у" спрэчкі, пакрыўдзілі мы, ці не, тую адзіную дазволеную ў Беларусі маскоўскую праваслаўную царкву, ніжэй падаем пару толькі зь бясконцых, ня намі напісаных, абразкоў ейнае дзейнасьці, а ўжо чытачы няхай самыя зробяць суд.

Першы, зь ейнага афіцыйнага воргану "Царкоўнае Слова" № 4, 1996, наўсуперак неахвоты да чужамоўных уставак, дзеля дакладнасьці й захаваньня нахабнасьці тону, перадрукоўваем ў арыгінальнай расейскай мове:

"С благословения и непосредственнаго участия Святейшего Патриарха Московскаго и всея Руси Алексия II в Москве состоялось подписание договора о создании Сообщества Суверенных Республик - России и Беларуси.

На церемонии подписания среди 300 представителей РБ присуствовал также Патриарший Экзарх всея Беларуси митрополит Минский и Слуцкий Филарет.

В интервью Его Высокопреосвященство отметил:

"Осуществилась идея Церкви. Идея Православия - это идея единства народов, единство человеческого рода. Мы часто забываем, что у нас общая Матерь-Церковь. И когда происходят такие акты единения - то радуется сердце, значит Церковь права, когда она противится всякому разъединению".

Другі бярэм з зацемкі Аляксея Шэіна на бачынах самога "ЛіМ'у" з 18.X.1996 п.н. "Абы "за"...":

"Днямі ў сумна ўжо вядомай праграме, прысьвечанай рэфэрэндуму (якая ідзе па беларускім радыё) браў удзел памочнік мітрапаліта Філарэта Валерый Ярчак. Чым адрозьнівалася ягоная прамова ад іншых, што гучаць звычайна з гэтай нагоды - дык гэта адсутнасцю ўсялякіх камуфляжных размоў пра ўзмацненьне дэмакратыі, пра сувэрэнітэт ці неабходнасць "аздараўлення напаўмёртвай эканомікі. Ён гаварыў адкрыта і канкрэтна: "Монарх - символ власти, надо, чтобы его не пинали ногами, не угрожали импичментом... Президентская власть станет как власть государя. Теперь - это переходный момент". Акрамя запэўніванняў у неабходнасці цара-бацюшкі, гаварыў пра сцвярджэнне расійскага манаха Авеля (які жыў пры Паўле I), што на чале "Русі" будзе "трижды благословенный Богом правитель, имя которому Александр", яўна на некага намякаючы. Паведамляў таксама, што "с Белой Руси возродится великая, единая Россия", і што "в слове "империя" нет ничего плохого".

Дык, ці маем дачыненьне з запраўднай царквою, ці з ударнай калёнай маскоўскага заграбацтва?!...

Варочаючыся да засьцярогі "ЛіМ'у" на наш артыкул, здаецца, што не "Царкоўны Пасланец" апярэдзіў падзеі пішучы праз улучэньне Беларусі ў Расею, а рэдакцыя газэты, перакладаючы на зрусыфікаваную інтэграцыйную трасянку мову, якою мы, як навучыліся ад бацькоў і дзядоў увесь наш век карыстаемся, ня бачыць, што ейны пераклад і ёсьць адным з выяваў таго ўлучэньня.

## ЗАПРАЎДНЫ ВОБРАЗ МАСКОЎСКАЕ ПАТРЫЯРХІІ

### З III-га ІНТЭРНАЦЫЯНАЛУ - III-ці РЫМ

(Працяг з нр. 2-3, 1996)

За верную службу савецкай уладзе й ворганам дзяржбясьпекі Аляксей Сіманскі стала атрымоўваў свае трыццаць сярэбранікаў: урадавы ЗІС, дачу, адпачынак у Крыме, круізы на камфартабельных параплавах, спэцвагон на чыгунцы, харчавую й мэдычную спэцабслугу. Ажно да распаду СССР Маскоўская патрыярхія забясьпечвалася далікатэсамі й алкаголям з крамлёўскае базы. Усе кіраўнікі сталінска-брэжнеўскае царкоўнае герархіі ўзнагароджваліся за заслугі ў справе

будаўніцтва камунізму ордэнамі, мэдалямі й ганаровымі граматамі, у т.л. і ад КДБ СССР. Патрыярх Аляксей І-шы стаў рэкардсмэнам сярод савецкіх архірэяў паводле ордэнаў: 4 ордэны Працоўнага Чырвонага Сьцягу.

Раскрыцьцё дакумэнтаў КДБ паказала, што самая "чырвоная" Патрыярхія фактычна была падразьдзелам МДБ. Пасьля таго, як пупавіна, што зьвязвала Маскоўскую патрыярхію зь ейнай матчынай арганізацыяй - 4-м адзьдзелам 5-е ўправы КДБ - у 1991-м годзе была разарваная, РПЦ выявіла няздольнасьць да самастойнага царкоўнага служэньня. /.../

У 1947-48-м гадох сталінская праваслаўная царква спадзявалася на скліканьне Усеправаслаўнага Сабору, на якім пры дапамозе нябачна прысутнага МДБ Маскоўскі патрыярх быў бы ўзсунуты зь ніжэйшага пятага мейсца ў герархіі патрыярхаў на першае, г.зн. стаў бы Усяленскім. Тады Масква ўзноў была б абвешчаная Трэйцім Рымам, а Есіф Сталін - новым Канстанцінам Вялікім. Аднак, Бог не дапусьціў да такога зьдзекаваньня над хрысьціянствам.

**ВЯЛІКІ ПАВАДЫР І НАСТАЎНІК УСІХ ЧАСОЎ І НАРОДАЎ - РОДНЫ БАЦЬКА МАСКОЎСКАЕ ПАТРЫЯРХІІ**

Але й у статусе бальшавіцкага павадыра сталінская Патрыярхія ўслаўляла свайго хроснага бацька больш за ўсіх сьвятых. Вось як апісвалі свае ўражаньні ад сустрэчы із Сталінам 10-га красавіка 1945-га году патрыярх Аляксей і мітрапаліт Мікалай:

" *Поўныя шчасьця бачыць таго, чыё імя зь любасьцяй вымаўляецца нятолькі па ўсіх кутках нашае дзяржавы, але й ува ўсіх волялюбных і міралюбных дзяржавах, мы выказваем Есіфу Вісарыёнавічу нашую падзяку...Размова была нязмушаная, як гутарка бацькі зь дзецьмі*"...- Бацька зь дзецьмі! Якое самавыкрыцьцё можа быць больш красамоўнае за гэткае?

У 1947-м годзе з нагоды сьвяткаваньня 800-годзьдзя Масквы патрыярзх Аляксей І-шы заяўляе, што ачоленая ім рэлігійная арганізацыя зьдзяйсьняе "*старанную, усецаркоўную малітву за дзяржаву, перамогу, мір, здароўе й выратаваньне... усіх доблесных кіраўнікоў нашае дзяржавы на чале з нашым Вялікім мудрым Павадыром, які вядзе нашую Бацькаўшчыну спрадвеку сьветлым шляхам магутнасьці, велічы й славы*".

Сьмерць заснавальніка РПЦ Генераліссімуса Сталіна ў 1953-м годзе сталася ўдарам для ягоных духоўных дзяцей -патрыярха Аляксея (Сіманскага) ды ягоных памагатых, увяла іх у вялікі сум. Памінаць свайго бога як "Божага раба Есіфа" (стандартная фармулёўка царкоўнага памінаньня) здалося з багаслоўскага пункту гледжаньня прынізьліва. Таму на засупакойнай службе ўспаміналі памерлага павадыра як "Генераліссімуса Есіфа". У слове перад паніхідай патрыярх Аляксей прамаўляў:

"*Вялікага Павадыра нашага народу Есіфа Вісарыёнавіча Сталіна ня стала. Зьнікла вялікая сіла ...у якой наш народ адчуваў уласную сілу, якой ён кіраваўся ў сваёй творчай працы й пачынах, якой ён цешыўся працягам многіх гадоў. Няма дзялянкі, куды б не пранік глыбокі позірк вялікага Павадыра... Ніводнае пытаньне, зь якім мы бы да яго не зьвярталіся, ня было ім зьігнараванае: ён задавальняў усе нашыя просьбы. Памяць праз яго для нас незабыўная...*"

Нават у хрушчоўскі час, калі КПСС на XX і XIX зьездах пакаялася ў "кульце асобы", савецкія герархі засталіся верныя незабыўнай памяці свайго Бацька "Вялікага Павадыра". "Служыцелі культу" дагэтуль застаюцца верныя іхнаму духоваму Бацьку. Ад імя Маскоўскае патрыярхіі ані разу не прагучэла ніводнае слова пакаяньня за тыя ганебныя старонкі мінулага.

**ХРУШЧОЎ - НОВЫ "ЮЛЬЯН-АДСТУПНІК"**

Атрымаўшы ўладу, першы перабудоўнік М.С. Хрушчоў наважыў паставіць праваслаўных "служыцеляў культу" на мейсца. Каб "адзьдзячыць" за ўшанаваньне Сталіна, ён запрапанаваў ім самым пачаць масавае закрыцьцё парахвіяў, духоўных сэмінарыяў і манастыроў. Ардэнаносныя савецкія вяльможы пачалі пасьпешліва даводзіць непатрэбнасьць рэлігіі савецкаму грамадзтву й зачыняць парахвіі. Тыя архірэі, што найбольш шчыравалі ў гэтым кірунку, атрымоўвалі ўзнагароды й павышэньні ў службе. Ад 1958-га да 1964-га году колькасьць парахвіяў скарацілася больш як удвая! Архіяпіскап Калускі Гермаген (Голубеў), які выступіў супраць, быў незаконна пазбаўлены катэдры й высланы ў манастыр на турэмных умовах.

Сергіянская герархія, што зьлілася з КДБ. ня турбавалася праз інтарэсы вернікаў. У 1961-м годзе захадамі патрыярха Аляксея І-га й пазьнейшага патрыярха Пімена ўсё духавенства амаль цалком пазбавілі магчымасьці ўплываць на гаспадарча-адміністрацыйнае жыцьцё Царквы, парахвіяльныя сьвятары сталі наймітамі сфармаваных савецкімі выканкамамі "дваццатак" - заснавальнікаў парахвіяў, якімі часта былі нятолькі вернікі, але й вэтэраны КПСС і КДБ. У патрэбным уладам выпадку так званая "дваццатка" магла ў абы-які момант зачыніць сьвятыню, або разарваць дамову з палітычна неляяльным сьвятаром і пакінуць яго фактычна беспрацоўным. У 60-я гады сьвятароў пазбаўлялі пастырскіх мейсцаў нават за даваньне характарыстыкаў маладым вернікам на ўступ ў духоўную сэмінарыю. Архіяпіскап Пімен (Ізьвекаў), адзін з галоўных ініцыятараў гэткае бязбожніцкае практыкі, у тым жа 1961-м годзе атрымаў ад сацыялістычнае Бацькаўшчыны званьне мітрапаліта, ордэн Працоўнага Чырвонага Сьцягу й другую паводле значаньня катэдру - Ленінградзкую, а пазьней быў высунуты на патрыярха.

**МАСКОЎСКАЯ ПАТРЫЯРХІЯ Й КДБ**

Пры М. Хрушчове працэс вярбаваньня сьвятароў распаўсюдзіўся й на ніжэйшыя прыступкі царкоўнае структуры. Праз вэрбавальнае сіта спэцслужбаў прапускаўся ня толькі япіскапат, але й значная частка шараговых духаўнікоў, таксама вернікі, што служылі ў царкве - сябры "дваццатак", алтарнікі, сьпевакі, вартаўнікі. прыбіральніцы.

Яшчэ ў 1922-м годзе ворганы ЧК падрыхтавалі сакрэтную інструкцыю, як мэтадам пугі й перніка вэрбаваць праваслаўных сьвятароў ды рабіць зь іх "верных рабоў ЧК":

""*Даклад памочніка ўпаўнаважанага сакрэтнага адзьдзелу ЧК праз агентурную працу й даносы сярод духавенства ў 1921-м годзе.*

*1. Карыстацца ў сваіх мэтах самым духавенствам, асабліва тым, што займае важнае службовае становішча ў царкоўным жыцьці - архірэямі, мітрапалітамі, прымушаючы іх пад страхам суворай адказнасьці выдаваць распараджаньні, што могуць быць нам карысныя, напрыклад: спыненьне забароненае агітацыі супраць дэкрэтаў праз зачыненьне манастыроў і інш.*

*2. Выкарыстоўваць характары некаторых япіскапаў, вікарных, каб праз іхнае самалюбства разыгрываць розныя вырыянты й задумы.*

*3. Вэрбаваць інфарматараў прапануецца пасьля пэўнага знаёмства з духовым сьветам і выкарыстаньнем рысаў характару служнікаў культу. Матар'ялы можна здабываць рознымі шляхамі. Асабліва, узяўшы ліставаньне падчас вобыскаў, праз асабістае азнаям-*

*леньне з духоўніцкім асяродзьдзем.*

*Матар'яльная зацікаўленасьць таго ці іншага інфарматара сярод духаўнікоў неабходная, грашовыя й натуральныя субсыдыі зьвяжуць іх, ён будзе верным рабом ЧК, будуць баяцца разсакрэчаньня іхнае дзейнасьці.*

*Праўда, спосаб ненадзейны. Можа быць карысны толькі тады, калі аб'ект вэрбоўкі безхарактарны".*

У 50-60-х гадох гэтая ўстаноўка чэкістаў рэалізавалася ў поўным абыйме. Няма дзіва - уся герархія зьверху была створаная рукамі ЧК. Асабліва гэты працэс узмацнеў пасьля ўступу РПЦ у склад Сусьветнае Рады Цэркваў, Хрысьціянскае Мірнае Канфэрэнцыі ды іншых міжнародных арганізацыяў. Вэрбоўкі сьвятарства РПЦ набылі такога размаху, што цяжка было разьмяжаваць, дзе яны выконвалі рэлігійныя, дзе чэкісцкія й дзе партыйныя заданьні. Праз маштабы зьліцьця царкоўных і чэкісцкіх пасадаў і заданьняў, што стаялі перад РПЦ і КДБ СССР, можна займець уяўленьне з дакумэнтаў з Цэнтральнага архіву КДБ СССР.

У ліпені 1983-га году *"у Ванкувэр (Канада), на VI-ю Генеральную Асамблею ў складзе рэлігійнае дэлегацыі СССР, агульнай колькасьцяй 120 чалавек, улучана 47 агентаў органаў КДБ з рэлігійных аўтарытэтаў, сьвятароў і тэхнічнага пэрсаналу* (ЦА КДБ СССР). У ліпені 1984-га году ў данясеньнях 4-га адзьдзелу 5-е ўправы КДБ гаворыцца: *"У Швайцарыю ў складзе дэлегацыі Рускае Праваслаўнае Царквы да Сусьветнае Рады Цэркваў выяжджалі агенты з заданьнем прасоўваньня на пасаду Генеральнага сакратара СРЦ прыймальнага для нас кандыдата. Пасаду зайняў Эміліо Кастро, абраньне якога, апрача РПЦ, падтрымалі цэрквы сацкраінаў".*

У тым жа годзе было апублікаванае адкрытае Пасланьне патрыярха Пімена прэзыдэнту Р. Рэйгану з асуджэньнем палітыкі ЗША й усхваленьнем палітыкі СССР. У архівах КДБ ёсьць інфармацыя праз тое, як пасланьне рыхтавалася ў запраўднасьці: *"Праз агентаў Астроўскага й Кузьняцова быў падрыхтаваны адкрыты ліст патрыярха Пімена... Ліст перадрукаваны ў газэце "Нью Ерк Таймс", перадрукаваны ў "Ізвесьціях" і перададзены для апублікаваньня нашым прыяцелям".*

Паводле дадзеных афіцыйнае Парляманцкае камісыі Вярхоўнага Савету РФ, галоўнымі цэнтрамі дзейнасьці КДБ СССР пад "царкоўным дахам" была Хрысьціянская Мірная Канфэрэнцыя, якую шмат гадоў ачольваў сёньняшні патрыярх Аляксей ІІ-гі (Рэдыгер) і Адзьдзел вонкавых дачыненьняў Маскоўскае патрыярхіі (АВЦД). Агент КДБ пад псэўданімам "Араміс", які працаваў у адзьдзеле перакладнікам, урэшце пакаяўся й на бачынах "Аргументов и фактов" (нр. 8, 1992 г) расказаў, што амаль усе супрацоўнікі АВЦД *"працавалі або на маскоўскую УКДБ, або на саюзны КДБ".*

Мэты й заданьні саноўных агентаў не абмяжоўваліся звычайнымі даносамі ці фальшыўкамі. Так, напрыклад, у кастрычніку 1969-га году дэлегацыя Маскоўскае патрыярхіі на паседжаньні Хрысьціянскае Мірнае Канфэрэнцыі мела заданьне *"скампраматаваць Генеральнага сакратара ХМК Ондру* (грамадзяніна ЧСР, які ў часе падзеяў 1968-га году выступіў у сваёй краіне з антысавецкімі заявамі) *"і дамагчыся ягонага адыходу з пасады".* Заданьне было выкананае...

Былі даручэньні палітычна-стратэгічнага характару: *"У рамках супольнага пляну з Службай "А" ПГУ КДБ СССР дзеля спрыяньня выгаднаму для СССР уплыву на клерыкальныя колы Захаду праз агентуру КДБ па рэлігійных каналах ужыцьцяўляўся камплекс акцыяў уплыву на грамадзка-палітычны крызіс у заходня-*

## ДРЭВЫ

Гажэй за дрэва, ўпроць жадзе,
Каб здумаць верш не давядзе.

За дрэва, сок жыўны што сьсе
Зь зямляных ядраных грудзей.

Цікуе Бога што ўвесь дзень
Ўзьняўшы гольле у прасьбе.

Што ў косы, лета як прыйдзе,
Гняздо птушынае ўпляце.

На ўлоньні што калыша сьнег
І мые ўбор ў дажджной вадзе.

Блазён, як я, ўсяк верш складзе,
А дрэвы Бог стварае ўсе.

Паводле Joyce Kilmer. Trees. Б.Д.



*эўрапэйскіх краінах.* (1981-шы год).

Адначасна, ворганы КДБ СССР пабацькоўску дбалі праз прыярытэт інтарэсаў свае хрэсьніцы Маскоўскае патрыярхіі: *"На навучаньне ў тэалягічных навучальных установах СССР, СФРЮ, ЧССР, НРБ і ПНР пасланыя агенты... Перад імі пастаўленае заданьне давесьці да духавенства краёвызх цэркваў інфармацыю праз гегеманісцкія імкненьні канстантынопальскага патрыярха на шкоду інтарэсам праваслаўных цэркваў, устанаўленьня кантактаў з духавенствам і выяўленьня намераў супраціўніка"* (сьнежань 1988-га году). З гэтага фрагмэнту, народжанага на чацьвертым годзе перабудовы, праз паўгода пасьля афіцыйных урачыстасьцяў тысячагодзьдзя Хросту Русі, вельмі няпроста сьцяміць, дзе канчацца інтарэсы КДБ і пачынаюцца інтарэсы патрыярхіі.

Паказальна, што й сёньня каля царкоўнага кіраўніцтва стаяць тыя-ж стырнікі, тыя ж кадры "вырашаюць усё". У красавіку 1995-га году патрыярх Аляксей ІІ-гі ў інтэрв'ю радыястанцыі "Раданеж" працягвае асуджваць гегемаісцкія намеры канстантынопальскага патрыярха!

Сьвятар Глеб Якунін

(Працяг будзе)



## АТРЫМАНЫЯ ВЫДАНЬНІ

ФОС. Часопіс (квартальнік) Брацтва Праваслаўнай Моладзі Беластоцка-Гданьскай Епархіі (Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы). № 2-3 (30-31). IV-X. 1996 і № 4 (32). XI-XII. 1996., 12 бач. кожны.
Адрыс рэдакцыі: ul. Liniarskiego 2, Bialystok, Poland.



## ВЫБАЧАЙЦЕ !

**ПРОСІМ ВЫБАЧЭНЬНЯ Ў НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ, ШТО ДЗЕЛЯ ЗАТРЫМКІ З АТРЫМАНЬНЕМ ІНФАРМАЦЫІ ПРАЗЬ ВІЗАВУЮ ЛЯТАРЭЮ НА ЎЕЗД У ЗША, ЯКУЮ МЫ АБАВЯЗКАВА ХАЦЕЛІ ЗЬМЯСЬЦІЦЬ, ГЭТЫ НУМАР "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА" ВЫХОДЗІЦЬ ПЕРАД САМЫМІ КАЛЯДАМІ Й ДОЙДЗЕ ДА ІХ ІЗ ЗНАЧНЫМ СПАЗЬНЕНЬНЕМ**

## БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА
## КАНСЫСТОРЫЯ - ІМІГРАЦЫЙНЫ АДЗЬДЗЕЛ

**B.A.O. CHURCH, 401 Atlantic Avenue, Brooklyn, N.Y. 11217-1702 USA**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Ў СПРАВЕ ВІЗАВАЕ ЛЯТАРЭІ НА ЎЕЗД У ЗША

Эміграцыя ў гісторыі чалавецтва зьява даўняя й у ейных выніках пераважна пазытыўная, бо ня гледзячы на прычыны, зь якіх адбываецца, у канцы дае карысьць нятолькі краю, што яе прыймае, але й таму, адкуль яна йдзе.

У выпадку-ж, калі край апыніцца пад чужынскай акупацыяй, палітычная эміграцыя жыцьцёва неабходная дзеля працягу змаганьня супраць захопнікаў за ўзнаўленьне незалежнасьці.

У беларускай гісторыі эміграцыя таксама зьява няновая й адбывалася паўторнымі хвалямі да нядаўняе пары, ды дзякуючы ёй ідэя нашае незалежнае дзяржавы й нацыянальнае Праваслаўнае Царквы захавалася праз гады варожага ўціску й тэрору, каб адрадзіцца на Бацькаўшчыне.

Нажаль адраджэньне незалежніцкае ідэі яшчэ не завяршылася ейным ужыцьцяўленьнем і ў наш Край узноў вярнуліся абставіны, дзеля якіх змаганьне за нацыянальныя мэты мусіць усьцерагацца ад ягонага зьнішчэньня часткова выходзячы за мяжу.

Асягнуць гэта можна толькі выкарыстоўваючы ўсе, хоць і невялікія, магчымасьці эміграцыі ў дэмакратычныя краіны, у тым ліку й у ЗША.

Адной з гэтых магчымасьцяў ёсьць устаноўленая іміграцыйным законам ЗША візавая лятарэя, у якой 55000 грамадзянаў іншых краёў могуць выграць візы на ўезд і сталае пасяленьне на амэрыканскай зямлі.

Хоць лятарэя й пачалася ў 1990-м годзе ды, для прыкладу, палякамі была выкарыстаная так шырока, што сёлета ім удзел у ёй зачынены, у Беларусі яна амаль няведамая.

Каб і сёлета ня страціць гэтую нагоду на ўезд нашых суродзічаў у ЗША Іміграцыйны Адзьдзел Кансысторыі БАПЦ ніжэй падае атрыманую зь Дзяржаўнага Дэпартаманту інфармацыю як запісацца на ўдзел у гэтай лятарэі:

Права запісацца на лятарэю й выграўшы візу прыехаць у ЗША маюць усе народжаныя ў Беларусі й у краінах СНД, калі маюць сярэднюю асьвету, або два гады практыкі ў прафэсіі вызначанай Дэпартамантам Працы ЗША.

Школьныя пасьветчаньні, або довады працоўнае практыкі ня трэба пасылаць запісваючыся на лятарэю, а чакаць пакуль яны будуць запатрабаваныя.

Можна падаваць толькі адну заяву на ўдзел у лятарэі, хто падасьць больш будзе зусім адкінуты.

Заяву можна падаць самому, або цераз пасярэднікаў.

Заяву трэба пісаць машынкай, або ад рукі друкаванымі ангельскімі літарамі (лацінкай) на аркушы (лісьце) звычайнае паперы, падаючы асабовыя дадзеныя, як паказана ніжэй:

1. Прозьвішча, імя й другое ймя, калі яно ёсьць (ня пісаць імя па бацьку). Прозьвішча абавязкава трэба падчыркнуць.
2. Дата й мейсца нараджэньня (дзень, месяц, год і горад/сяло, вобласьць, край).
3. Імёны, даты й мейсцы нараджэньня жонкі (мужа) й малодшых за 21 год жыцьця нежанатых (незамужных) дзяцей.
4. Поўны й дакладны адрыс заяўніка (куды павінен ісьці адказ). Нумар тэлефону пажаданы.
5. Родны край (native country), калі іншы ад краю нараджэньня (country of birth). Тады, каб лучыць у лік эмігрантаў (квоту) зь Беларусі можна падаць беларускае грамадзянства (Belarusian citizenship), калі яно ёсьць, або паходжаньне (Belarusian origin). Хто народжаны й жыве ў Беларусі хай ня піша нічога.
6. Да гэтак выпаўненага ліста трэба прымацаваць празрыстай прыклейнай устужкай (прышчэпкі й шпількі не дазваляюцца) сваю нядаўнюю фатаграфію 37 мм x 37 мм, на другім баку якое друкаванымі ангельскімі літарамі напісанае прозьвішча й імя.
7. Заяву трэба падпісаць звычайным подпісам.

Выпаўненую заяву трэба выслаць звычайным (не заказным) лістом у канвэрце ад 15 да 25 цм доўгім і ад 9 да 11 цм шырокім, заадрасаваўшы яго перш у верхнім левым куце таксама друкаванымі ангельскімі літарамі гэтак:

Край нараджэньня (BELARUS, або іншы).
Прозьвішча й імя.
Вуліца, нумар дому й кватэры.
Горад, вобласьць, паштовы код.
Край (BELARUS, або інш).

Ніжэй, калі пасылаеце зь Беларусі, або з Эўропы пасярэдзіне заадрасаваць:

DV 98 PROGRAM
NATIONAL VISA CENTER
PORTSMOUTH. NH 00212 USA

Тыя, што часова жывуць ў ЗША й Канадзе, хай ставяць код 00215 (00214 Аўстралія, 00210 Азыя).

Заяву выслаць поштай, найлепш паветранай, каб дайшла не раней 3-га лютага і не пазьней 5-га сакавіка 1997-га году, інакш яна будзе адкінутая.

Толькі тыя, што выграюць візы будуць паведамленыя аб гэтым улетку 1997-га г. і тады атрымаюць далейшыя інструкцыі ў справе выязду .

Іхныя жонкі (мужы) й непаўналетнія дзеці будуць таксама мець права на атрыманьне візаў.

Афармленьне ўсіх дакумэнтаў на ўезд мусіць быць закончанае да 30-га верасьня 1998-га году.

Іміграцыйны Адзьдзел Кансысторыі БАПЦ падаючы гэтае паведамленьне, лічыць сваім абавязкам папярэдзіць зацікаўленых ў эміграцыі, што пачаткі жыцьця ў ЗША могуць быць нялёгкія й разьлічваць на якую-колечы дапамогу ў гэтых абставінах нельга, а трэба спадзявацца на свае сілы, ды таму раіць адважвацца на выязд зь Беларусі толькі тым суродзічам, якія гатовыя на найбольшыя ахвяры дзеля дабра свае роднае Праваслаўнае Царквы й нашае Бацькаўшчыны.

Сьнежань 1996

Іміграцыйны Адзьдзел
Кансысторыі БАПЦ

## ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Рэдакцыйнай Калегіі “Царкоўнага Пасланца” няма лепшае ўзнагароды за ейную клапатлівую працу, як прыхільныя водгукі аб часапісе, што даходзяць ад чытачоў з Бацькаўшчыны й з розных куткоў сьвету.

Гэтыя водгукі падтрымоўваюць упэўненасьць, што выбраны намі шлях правільны й узмацоўваюць навагу, папраўляючы нашыя крокі, ісьці гэтым шляхам далей да асягненьня ўсім нам супольнае мэты - узнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў незалежнай Беларусі.

Веліч гэтае мэты наказвае й усім, каму яна дарагая, адкінуўшы дасюлешнюю асьцярогу, задзініць усе сілы на дапамогу Рэдакцыйнай Калегіі “Царкоўнага Пасланца” у справе, якую яна адна ў нас робіць, а супраць якое дзее навал нашых ворагаў.

Дзякуй Богу, у гэтым накірунку ёсьць пазнакі зьмены на лепшае, з чаго Рэдакцыйнай Калегіі, не бядуючы за што друкаваць часапіс, магла-б зьявіцца магчымасьць запрасіць у ейны склад новых аўтараў ды прыдбаць больш мейсца на цікавейшыя матарыялы ў часапісе з павялічаным лікам бачынаў.

Спадзяемся, што гэтыя нашыя лятуценьні неўзабаве абернуцца ў запраўднасьць і “Царкоўны Пасланец” стане годным увагі кожнага беларуса часапісам, які будзе асьвятляць дарогу да нашага царкоўнага й нацыянальнага вызваленьня.

Тымчасам, аднак, дзякуем тым, што да збыцьця гэтага ймкненьня ўжо далажыліся, а пайменна:

Айцы: Каоп Стар - 20.оо д., Міхась Страпко - 20.оо д., Максім Таўпека - 20.оо.

Спадарыні й Спадары: М. Белямук - 10.оо д., О. Буран - 10.оо д., Ю. Васілеўскі - 50.оо д., А. Войтэнка - 25.оо д., Р. Галяк - 30.оо д., М. Грэбень - 25.оо д., Б. Даніловіч - 10.оо д., Л. Данілюк - 25.оо д., Р. Данілюк - 25.оо д., др. Я. Запруднік - 20.оо д., Ю. Касьцюкевіч - 20.оо д., др. Ю. Кіпель - 25.оо д., Я. Крэсла - 10.оо д., В. Лосік - 50.оо д., П. Пікулік - 25.оо д., М. Прускі - 5.оо д., М. Тулейка - 50.оо д., В. Цярпіцкі - 10.оо д., В. Шчэцька - 10.оо д.

Асабліва моцную падзяку выказваем Я.М. МІТРАПАЛІТУ ІЗЯСЛАВУ, А. ППРСВ. В. КЕНДЫШУ, Сп. Сп. Ю. ВАСІЛЕЎСКАМУ, Р. ГАЛЯК, Р. ГАРОШКУ, Б. ДАНІЛЮКУ, В. ЛОСІКУ, УЛ. КУРЫЛУ, І. СЯДУРА, Р. КУДАКОЎСКАЙ, Ю.КАСЬЦЮКЕВІЧУ, М. ТУЛЕЙКУ й О. ЯСЬКЕВІЧ, што ахвяравалі 50 і больш даляраў на выданьне “Царкоўнага Пасланца” ды, гэткім чынам, сталі фундатарамі (спонсарамі) часапісу ў 1996-м годзе.

Каб мы мелі 50 гэткіх дабрадзеяў кожны год, існаваньне “Царкоўнага Пасланца” было-б цалком забясьпечанае й ідэя нацыянальнае Праваслаўнае Царквы ў вольнай Беларусі ішла-б у наш Край, ды пашыралася-б там ажно да ейнага ўжыцьцяўленьня.

Дык няхай-жа ўрачыстасьць Сьвята Хрыстовага Нараджэньня натхніць Вас, а памыснасьць у Новым Годзе дасьць Вам магчымасьць гэткую ахвяру зрабіць!

Рэдакцыйная Калегія
“Царкоўнага Пасланца”